*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 12 (134)**
Серада, 22 студзеня 1997 г.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 1500 руб. у індывідуальных гандляроў — свабодны.



**22 студзеня**
Узыход Сонца 8.42
Заход Сонца 16.40
Даўжыня дня 7.58
*Першая чвэрць Месяца 15 студзеня*



## От предложений Семена Шарецкого в Конституционном суде, похоже, отмахнулись

Как уже сообщалось, в конце декабря минувшего года председатель Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва С.Шарецкий направил в Конституционный суд предложения о рассмотрении на предмет соответствия Конституции и действующему законодательству ряда новоиспеченных законов и Указа президента "Об одобрении списка депутатов Верховного Совета Республики Беларусь, включаемых в состав Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь".

Нынешний руководитель Конституционного суда Г.Василевич, который раньше очень часто имел "особое мнение", теперь, судя по всему, его не имеет. Ответ С.Шарецкому подписал не он, а некто первый заместитель генерального секретаря суда М.Германович. В нем нет ни слова по существу предложений, а лишь бюрократическая констатация: "Конституционный суд дает заключения по предложениям президента Республики Беларусь, Палаты представителей, Совета Республики, Верховного суда, Высшего хозяйственного суда, Совета министров".

Но Конституционный суд может рассмотреть любой вопрос по собственной инициативе. Любой, но не те, которые предлагает рассмотреть спикер парламента 13-го созыва. А почему бы и не рассмотреть?

**Антон ПИСКАРЕВИЧ.**

## Адвокат Тамары Винниковой уехал из Минска

**Скандал, связанный с арестом председателя правления Национального банка Тамары Винниковой, набирает обороты. Разумеется, всевозможные слухи, которые распространяются в кулуарах, нельзя принимать за чистую монету. Тем не менее...**

Как известно, Тамара Винникова сейчас находится в следственном изоляторе КГБ. По одной информации, экс-председатель Национального банка сидит в камере, обитателем которой в свое время был поэт Славомир Адамович, по другой — г-жа Винникова находится в условиях более чем комфортных — к ее услугам телевизор, газеты. Интересен и тот факт, что ее адвокатом стал известный в Минске юрист Гарри Погоняйло, который одновременно является адвокатом и Славомира Адамовича.

Нам удалось связаться с г-ном Погоняйло. Он утверждает, что все это время встречался с Тамарой Винниковой в комнате для свидания и посему не имеет ни малейшего представления об условиях ее содержания. Адвокат также опровергнул слухи о том, что Винникова будто бы объявила голодовку. Есть сведения, что она хотела пойти на такой шаг, но ее отговорили.

Гарри Погоняйло был тактичен, но немногословен: дело того, надо полагать, требует. По этой причине, наверное, адвокат покинул свою подзащитную на неделю и уехал из Минска.

**Марина РАССАФОНОВА.**

## Ваенныя спадзяюцца на майскую сустрэчу з прэзідэнтам

На каардынацыйным савеце афіцэрскіх сходаў Узброеных Сіл краіны, які днямі прайшоў у Мінску, ваенныя Беларусі прынялі рашэнне правесці 21 мая афіцэрскі сход беларускай арміі. На падобны форум афіцэры рэспублікі не збіраліся ўжо больш за 5 гадоў.

Будучы сход можа стаць прыкметным таму, што афіцэры прынялі рашэнне запрасіць на яго Галоўнакамандуючага Узброеных Сіл краіны — Аляксандра Лукашэнку. Цікава, ці ўзрадуе прэзідэнт сваёй прысутнасцю ваенных?

**Святлана СУМАВА.**

**Стоп-кадр**



*Фінальная сцэна.*

Фота У. СТРАЛКОЎСКАГА.

## Хельсінкскі камітэт выступае ў абарону беларускіх "ненадзейных" студэнтаў

**Як стала вядома, пры Беларускім Хельсінкскім камітэце створана новая структура — студэнцкі клуб. Асноўнай яго мэтай будзе абарона правоў студэнтаў і выступленні супраць дэспатызму ўлады.**

Справа ў тым, што ў апошні час усё часцей паступае інфармацыя аб прэсінгу на найбольш актыўных студэнтаў дзяржаўных вну Беларусі. Па неафіцыйнай статыстыцы, пасля гарачай вясны мінулага года ў Мінску было адлічана каля 200 студэнтаў. Сёння бадай што самымі жорсткімі мерамі ў адносінах да сваіх выхаванцаў вызначаецца факультэт міжнародных зносін — адзін з самых прэстыжных факультэтаў Белдзяржуніверсітэта. "Народная воля" ўжо паведамляла сваім чытачам аб уціску на студэнтаў, якія ўваходзяць ў каардынацыйны камітэт маладзёжных арганізацый "Адзінства ў дзеянні". Пад час экзаменацыйнай сесіі некаторыя з іх здавалі экзамен непасрэдна дэкану А.Шарапе. Ніхто з іх гэты іспыт не здаў, прычым дэкан нават не спрабаваў утойваць сапраўдную прычыну гэтай няздачы: пасля візіту ў Адміністрацыю прэзідэнта, як высвятлілася, ён атрымаў дырэктыву скампраметаваць і выключыць з факультэту пяцярых самых актыўных студэнтаў.

Такім чынам, студэнцкі клуб Беларускага Хельсінкскага камітэта сумесна з каардынацыйным камітэтам маладзёжных арганізацый "Адзінства ў дзеянні" ў хуткім часе плануе правесці акцыю ў абарону правоў студэнтаў.

**Уладзіслава ЛЕНСКАЯ.**

## Паспяховае дэсанціраванне амерыканскага ваеннага аташэ на Беларусі

Ваенны аташэ амбасады США ў Беларусі Роберт Ханд тры рабочыя дні мінулага тыдня правёў пад Віцебскам у 317-й мабільнай брыгадзе паветрана-дэсантных сіл краіны. Справа ў тым, што яшчэ ў кастрычніку мінулага года, калі ў гэтай брыгадзе праходзілі першыя вучэнні, Ханд зацікавіўся падрыхтоўкай беларускіх дэсантнікаў і, як кажуць, напрасіўся ў госці.

У студзені амерыканец прайшоў курс ваеннай падрыхтоўкі, які, між іншым, завяршыўся некалькімі паспяховымі трэніровачнымі скачкамі з парашута.

А што будзе, калі ўсе амерыканцы захочуць "дэсанціравацца" на Беларусі?

**Марыя ВІКТАРАВА.**

**Інтэрдайджест**

*Александр КВАСЬНЕВСКИЙ, президент Польши:*

## "Все заинтересованы в том, чтобы в доме у соседей царили мир и порядок. Надеемся, что в Минске придут к взаимопониманию"

На прошлой неделе президент Польши Александр Квасьневский дал большое интервью российскому журналисту Андрею Ванденко. Есть в нем и фрагмент, касающийся Беларуси. Разговор к этому склонился после вопроса о том, каким был 1996 год для молодого польского президента. А.Квасьневский сказал:

— Да, год выдался трудный. Я вступил в должность в условиях политического кризиса, связанного с оскорблением и отставкой премьер-министра Олексы. Но мы справились с внутренними проблемами.

Есть прогресс и во внешней политике. Польша стала ближе ко всем европейским структурам. Мы установили хорошие взаимоотношения с соседями — с Украиной, Литвой, Чехией, Германией...

**— Вы забыли упомянуть Белоруссию.**

— Да, тут есть некоторые сложности. Мы не скрываем беспокойства, наблюдая за внутренними проблемами этой республики.

**— Президент Лукашенко откровенно обиделся на ваше выступление на недавнем саммите в Лиссабоне, посчитав, что вы вмешиваетесь в чужие дела.**

— Что делать? Понимаю, критику слушать всегда неприятно, но я позволил себе замечания не для того, чтобы позлить Александра Лукашенко. Мы не собираемся никого учить жить, хотя, с другой стороны, нельзя и молчать в ситуации, развивающейся, на наш взгляд, неправильно. Ведь и Россия проявила определенное беспокойство, когда в Белоруссии нарастало противостояние. Все заинтересованы в том, чтобы в доме у соседей царили мир и порядок. Надеемся, что в Минске придут к взаимопониманию.

**З дасведчаных крыніц**

## Адстаўка Міхаіла Пастухова пакуль не прынята, але ў камандзе Рыгора Васілевіча ён не свой чалавек

Чытачы, напэўна, памятаюць: суддзя Канстытуцыйнага суда, доктар юрыдычных навук, прафесар Міхаіл Пастухоў падаў заяву аб адстаўцы на імя старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання С.Шарэцкага. Але да сённяшняга часу апошні не можа вынесці заяву М.Пастухова на разгляд, паколькі 110 дэпутатаў, якія ўвайшлі ў так званую Палату прадстаўнікоў, пазбавілі парламент 13-га склікання кворуму. І яшчэ адна акалічнасць — калі міжнародная супольнасць лічыць правамоцным Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, то Палата прадстаўнікоў, наадварот, лічыць яго неправамоцным. У той жа час Міхаіл Пастухоў не напісаў заяву ні на імя А.Малафеева, ні на імя прэзідэнта А.Лукашэнкі. А таму яго лёс да сённяшняга дня не вырашаны.

Міхаіл Іванавіч працягвае хадзіць на работу ў Канстытуцыйны суд. Але, як стала нам вядома з дасведчаных крыніц, сённяшні кіраўнік Канстытуцыйнага суда Р.Васілевіч не запрашае яго на службовыя нарады, іншыя мерапрыемствы. Вось такія адносіны да "свайго сярод чужых".

**Фёдар КУЖЭЛЬНЫ.**

**Праект бюджэту: незалежная экспертыза**

## "Кіруючыя таварышы" атрымаюць сродкаў у чатыры разы болей, чым уся культура

Падобна, што адна з вялікіх тайн у нас, — гэта бюджэт, размеркаванне дзяржаўных сродкаў. Калі ў цывілізаваных краінах бюджэт адкрыта абмяркоўваецца ў парламенце і друку, дык у нас яго праект не атрымалі нават журналісты, акрэдытаваныя пры прэс-цэнтры Нацыянальнага сходу. Многія работнікі незалежных сродкаў масавай інфармацыі не маюць доступу да залы, дзе засядае Палата прадстаўнікоў. Таму даводзілася чакаць дэпутатаў у буфеце, на калідорах правага крыла Дома ўрада, каб распытаць пра бюджэт, ды вылоўліваць лічбы з яго ў стэнаграме пасяджэння Палаты прадстаўнікоў.

Тым не менш нам удалося даведацца пра асноўныя накірункі бюджэтнай палітыкі. Сутнасць яе ў тым, што велізарныя сродкі накіроўваюцца на ўтрыманне сілавых структур, чыноўнікаў рознага рангу і мізэрныя — на развіццё культуры, спорту. Так, на падтрымку прадпрымальніцтва, якое павінна пакласці добры пачатак развіццю перадавых форм гаспадарання, выдзяляецца на бягучы год толькі 35 мільярдаў рублёў. У той жа час на фінансаванне галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры прэзідэнце адпушчаны 32 мільярды, а на ўтрыманне службы бяспекі прэзідэнта — яшчэ 20 мільярдаў. Такім чынам, адна ахова забірае сродкаў больш як у паўтара раза, чым даецца на развіццё прадпрымальніцтва!

Яшчэ лічбы для роздуму. На культуру выдзелена дзесьці каля 260 мільярдаў рублёў. Праўда, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў вялі размовы, каб у гэтую графу дабавіць яшчэ мільярдаў 40. Канчатковае рашэнне будзе прынята ў верхняй палаце Нацыянальнага сходу. Але калі ўлічыць і згаданую дабаўку, дык сума атрымаецца каля 300 мільярдаў. А вось на фінансаванне органаў дзяржаўнай улады і кіравання выдзяляецца 1 трыльён трыста мільярдаў. Словам, кіруючыя таварышы, чыноўнікі розных рангаў атрымаюць на харчаванне і абслугу ў чатыры разы больш, чым уся культура.

На развіццё фізкультуры мяркуецца даць каля 200 мільярдаў рублёў, пад праграму "Моладзь Беларусі" — 20 мільярдаў. Затое трыльёны даюцца сілавым структурам. На абарону плануецца адпусціць больш як 2 трыльёны мільярдаў, органам унутраных спраў — больш за 2 трыльёны. На ўсе сілавыя структуры і судова-праваахоўныя органы набягае астранамічная лічба, якая перавышае 6 трыльёнаў рублёў. Для роздуму і параўнання прывяду яшчэ адну лічбу: на льготнае крэдытаванне і субсідыі на жыллёвае будаўніцтва даюць 300 мільярдаў. Параўнайце гэтыя 300 мільярдаў і 6 трыльёнаў.

Не шкадуюць грошай і на падтрымку сродкаў масавай інфармацыі. Ім выдзяляецца 650 мільярдаў рублёў, або больш чым на культуру і льготнае будаўніцтва жылля разам узятыя.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

**Падслухалі**

## Бунт на Камароўцы

У мінулыя выхадныя прадпрымальнікі, якія працуюць на Камароўскім рынку, правялі акцыі пратэсту. У суботу многія прылаўкі былі пустыя, а ў нядзелю на многіх рабочых месцах крытага рынку замест тавараў былі плакаты, якія асуджалі дзеянні Адміністрацыі прэзідэнта за тое, што яна пачала чарговы наступ на бізнесменаў.

Каля прылаўкаў узнікалі стыхійныя дыялогі. Група ветэранаў горача падтрымлівала дзеянні ўлад.

— Даўно пара іх турнуць адсюль, — даказваў пасівелы дзядок.

— А дзе ж будзем купляць прадукты? — не згаджалася з ім маладая гаспадыня.

— Як дзе? У магазіне. Ды і сюды калгасы навязуць.

— Я не хачу ў магазіне. А як калгасы гандлююць, таксама добра ведаю.

На падмогу дзядку падышлі іншыя ветэраны.

— Паглядзі на гэтых прадаўшчыц, — тыкаючы пальцам у бок прылаўка даводзіла пажылая дама. — Паглядзі, як яны апрануты — каўнерык норкавы, пiджак скураны... Нафуфыраныя.

— А вы хочаце, каб прадаўцы былі ў зашмальцаваных халатах? Тады ідзіце ў дзяржаўнуюкраму.

На Камароўцы, як бачым, сутыкнуліся два погляды на жыццё і рынак. Па ўсім відаць, што ўлады пакуль узялі бок пасівелых ветэранаў, якія самі не бачылі добрага жыцця і не жадаюць яго сваім унукам.

**Алесь ДРАБЧУК.**

***P.S.** У снежні мінулага года быў прызначаны новы дырэктар рынка Віктар Раманенкаў, які змяніў амаль усе працоўныя кадры. Па нашай інфармацыі, ён цалкам звольніў брыгаду кантралёраў. А прадпрымальнікаў і іх супрацоўнікаў напалохалі тым, што пазбавяць іх арэндных месцаў. Фактычна гэта азначае пазбаўленне месца працы і сродкаў да існавання. Новае кіраўніцтва Камароўкі таксама збіраецца стварыць свае гандлёвыя кропкі, якія будуць працаваць з пастаўшчыкамі на ўмовах "камісіі": разлік з прамыслоўцамі будзе праводзіцца толькі пасля продажу іх тавараў. Прадпрымальнікі раней куплялі тавар у прамыслоўцаў ва ўмовах перадаплаты. На іх думку, умовы камісіі ствараюць добрую базу для карупцыі на рынку.*

*Сваё незадавальненне яны выказалі ў лісце да мэра горада Уладзіміра Ярмошына. "Калі ўлічваць, што на Камароўскім рынку каля 4000 гандлёвых месцаў, кожнае з якіх дае працу ў сярэднім тром людзям, то на біржы працы хутка зарэгіструюцца каля 12 000 чалавек, а іх сем'і застануцца без сродкаў да існавання", — гаворыцца ў лісце прадпрымальнікаў Камароўкі да мінскага мэра. Аднак ніякага адказу няма. Забастоўшчыкі плануюць напісаць такое ж пасланне прэзідэнту Лукашэнку.*

## Сусветны Банк і Беларусь маюць намер працягваць супрацоўніцтва

У лютым у нашу краіну прыбудзе дэлегацыя Сусветнага банка. Галоўная мэта візіту - абмеркаванне эканамічнага мемарандуму аб Беларусі, падрыхтаванага экспертамі гэтай фінансавай арганізацыі і прадстаўленага ва ўрад рэспублікі.

Як стала вядома БЕЛТА, па выніках перамоў плануецца вызначыць асноўныя напрамкі супрацоўніцтва, крэдытнага ўдзелу Банка ў вырашэнні вострых сацыяльна-эканамічных праблем. Яны датычаць паскарэння рэфарміравання эканомікі Беларусі ў адпаведнасці з праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця да 2000 года, а таксама ўзгаднення з урадам вывадаў і прапаноў, што змяшчаюцца ў мемарандуме Сусветнага банка.

Умовы візіту дэлегацыі міжнароднай фінансавай арганізацыі ўзгоднены кіраўніком яе прадстаўніцтва ў Беларусі Крыстаферам Уілаўбі з выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра рэспублікі Сяргеем Лінгам і кіраўніцтвам шэрагу міністэрстваў.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

**Служба 01**

## Пажарным адпачываць няма калі

**За мінулы тыдзень у рэспубліцы зарэгістраваны 233 пажары, у выніку якіх загінулі 32 чалавекі.**

Агнём знішчана і пашкоджана 138 будынкаў, 18 адзінак тэхнікі, 25 тон кармоў. Матэрыяльны ўрон ад пажараў - 1 мільярд 585 мільёнаў рублёў.

**БЕЛТА.**



**Хто ёсць хто**

## Як Віктар Францавіч хоча стаць Іванам Іванавічам

Пасля вядомай разборкі на віцебскім базары Віктара Францавіча Кучынскага журналісты ахрысцілі трапным выразам — "человек с наганом в башке" і, бадай, не памыліліся. Калі ён што задумаў — не спыніцца. А задумаў ён, кажуць, пераплюнуць нават самога Івана Іванавіча Ціцянкова. Праўда, пайшоў больш хітрым шляхам. Каб прыбраць да сваіх рук больш улады, чым мае Іван Іванавіч, ён прапанаваў Палаце прадстаўнікоў тэрмінова прыняць спецыяльны Закон "Аб Сакратарыяце парламента — Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь". Скажаце: як жа так — няма закона аб самім Нацыянальным сходзе, а тут адразу аб Сакратарыяце?.. А што Кучынскаму да гэтага — давай закон, і ўсё. І знайшліся парламентарыі, якія ў першым чытанні яго праект падтрымалі.

А ў канцы мінулага тыдня начальнік Сакратарыята Палаты прадстаўнікоў зноў за сваё: калі будзем прымаць закон канчаткова? І тут не вытрымаў сам сённяшні спікер — Анатоль Малафееў. З усёй былой партыйнай рашучасцю ён сказаў "человеку с наганом в башке", чаму нельга спяшацца з прыняццем такога закона. Кажуць, старшыню Палаты прадстаўнікоў у гэтым падтрымліваюць такія вядомыя парламентарыі, як Малумаў, Ягораў, Канаплёў і многія іншыя. Баяцца, каб сапраўды Віктар Кучынскі не стаў Іванам Ціцянковым?

Цікава ўсё ж: здолеюць спыніць "человека с наганом в башке" ці не?

*Ліст да старшыні дэпутацкай палаты N 1 таварыша Малафеева А.А.*

## Каб сапраўды былі мір і згода!

24 кастрычніка мінулага года на Беларусі адбыліся падзеі, якія ўскалыхнулі свет. Беларускі народ праз "мудры і геніяльны рэферэндум" усталяваў зусім новую дзяржаву.

А што ўсё рабілася мудра — прывяду такі прыклад. 10 кастрычніка да майго васьмідзесяцігадовага бацькі прыехалі на кватэру. Паказалі яму бюлетэнь, выкраслілі, што ім было трэба, паклалі паперку ў канверт ды яшчэ папрасілі, каб бацька распісаўся на ім. Калі ж я пайшоў на выбарчы ўчастак, то ўбачыў самую "сапраўдную, нашу родненькую дэмакратыю". Бюлетэняў давалі столькі, колькі хто прасіў. Назваць толькі трэба было адрас і прозвішча. У кабінах ляжалі ўзоры бюлетэняў — як трэба галасаваць. Члены камісіі былі такімі ўважлівымі да выбаршчыкаў і паказвалі, дзе і як трэба выкрэсліваць.

Пасля рэферэндуму ў краіне ўсталяваліся, як сцвярджаюць улады, мір і згода. Беларусь пакрочыла ў "светлое будущее". Усё гэта зроблена дзякуючы намаганням нашага любімага і дарагога прэзідэнта і ягоных паплечнікаў. Збылася мара беларусаў аб прыходзе "бацькі" і ўстанаўленні жалезнага парадку. Так і хочацца запець песню майго дзяцінства:

*Табе, правадыр, мае песні і думы,*
*І шчырыя шчырага сэрца парывы!*
*Бо хто калі сніў, бо хто калі думаў,*
*Што буду я вольны, што буду шчаслівы.*

Пагэтаму, таварыш старшыня дэпутацкай палаты N 1, дазвольце мне, чалавеку з народа, унесці шэраг прапаноў на разгляд палаты. На мой погляд, прыняцце іх яшчэ больш узвысіць добрабыт людзей, усталюе ў рэспубліцы сапраўдную згоду і мір.

1. Святкаваць кожны год, як калядныя святы, з 9 па 24 кастрычніка, а 24-га зрабіць непрацоўным днём. Абавязкова павінны праходзіць мітынгі, народныя гулянні, феерверкі ды салюты з усіх відаў зброі.

2. Абвясціць таксама непрацоўным днём — усебеларускім святам 31 жніўня — дзень нараджэння прэзідэнта.

3. Прысвоіць Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку вайсковае званне маршала. Ці ж гэта не ганебна, што да гэтага часу Галоўнакамандуючы ці то капітан, ці то маёр.

4. Устанавіць ва ўсіх гарадах і мястэчках помнікі прэзідэнту.

5. Абавязаць патрыярха Філарэта ва ўсіх праваслаўных царквах славіць прэзідэнта Лукашэнку на ўзроўні святых, пасля, вядома, патрыярха Алексія II.

6. Выпусціць грашовую адзнаку каштоўнасцю ў адзін мільён з партрэтам прэзідэнта А.Лукашэнкі, а таксама выявай рэзідэнцыі прэзідэнта, з аднага боку, і Шклова — з другога.

7. Выпусціць грашовую адзнаку коштам у 500000 рублёў, дзе былі б партрэты ўсіх дэпутатаў палаты N 1, а на "вадзяным полі" — яе старшыня і ягоны намеснік.

8. Выдавецтву "Беларускі Дом друку" тэрмінова пачаць выпуск біяграфіі прэзідэнта і зборніка ягоных прамоў.

9. Міністэрству асветы тэрмінова ўвесці ў праграмы школ і вну прадмет па вывучэнню біяграфіі і твораў А.Лукашэнкі.

10. Выпусціць спецыяльныя залатыя значкі з партрэтам прэзідэнта. Іх павінны абавязкова насіць усе "вертыкальшчыкі". Слугі прэзідэнта — слугі народа, а народ павінен ведаць сваіх слуг у твар.

11. Усталяваць ордэн Аляксандра Святога, ордэн павінен мець тры ступені: бронзавы, срэбраны і залаты. Ордэнам узнагароджваць толькі асабліва адданых, чэсных грамадзян і палітычных дзеячаў, якія доўга служаць прэзідэнту.

12. Вынесці на разгляд пытанні аб прыняцці шэрагу законаў, якія б баранілі гонар і годнасць нашага прэзідэнта. Ну, напрыклад: "Аб ворагах беларускага народа", "Аб глушэнні "нячэсных" радыёстанцый", "Аб нячэсных дыпламатах, карэспандэнтах, тэлерадыёкаментатарах і гэтак далей".

13. З 1 лютага па 31 снежня 1997 года правесці ўсенародны рэферэндум "Аб далучэнні да Беларусі Расійскай Федэрацыі". Прапанаваць і насельніцтву Расіі прыняць удзел у рэферэндуме. Вынікі рэферэндуму зрабіць абавязковымі для выканання з 1 студзеня 1998 года.

14. Сумеснай пастановай палат N 1 і 2 абавязаць Івана Ціцянкова пабудаваць у Віскулях панараму-помнік "Яны разбураюць СССР". У рэспубліку адразу паедзе процьма турыстаў. За наведванне браць толькі доларамі. Гэта дасць магчымасць падняць нашу эканоміку і спецыяльны фонд прэзідэнта.

Шаноўны таварыш старшыня палаты N 1! Можа мае рацыю абмяркоўваць гэтыя прапановы больш шырока. Пакланіцеся таварышу Кісялю, хай пусціць людзей на прэзідэнцкае радыё і тэлебачанне.

С пажыццёвай адданасцю, павагай і пашанай да нашага дарагога і любімага прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі —

**Сямён БУЛЫГА,
жыхар г.Брэста.**

***P.S.** Шаноўны рэдактар "Народнай волі"! Настаў цяжкі час. Натаўскія агенты і ЦРУшнікі запаланілі Беларусь. У перыяд рэферэндуму я бачыў, як двое маладых мужчын з ваеннай выпраўкай скупілі ў хлапчука, які прадаваў "Народную волю", усе газеты. Узялі сабе па адной, а астатнія выкінулі ў сметнік-бак. Калі я выцягнуў газеты і палічыў, то іх было 96. Хлапчук прадаваў "НВ" па 2000 рублёў за экземпляр. Бачыце, якія багатыя "замежныя" агенты.*

*Яшчэ больш смешна і гаротна было тое, што мяне каля сметніка-бака затрымаў міліцыянт, які адвёў у пастарунак, дзе я атрымаў перасцярогу. Не, не за тое, што "выратаваў" 96 экземпляраў "Народнай волі", а за тое, што быццам займаўся распаўсюджваннем улётак антыпрэзідэнцкага напрамку. Вось чаму вырашыў рэабілітаваць сябе. Не ведаю, атрымаеце ці не мой ліст, аднак, родныя, трымайцеся!*

Кірмашы

# Люты ў Мінску будзе кніжным

**Дзяржаўны камітэт па друку стварыў аргкамітэт па падрыхтоўцы чацвертага па ліку мінскага Міжнароднага кніжнага кірмашу. Ён пройдзе 19—23 лютага ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Дзяржкамдруку, галоўная мэта арганізацыі такіх кірмашоў — аднаўленне сувязей паміж выдаўцамі і кнігараспаўсюджвальнікамі розных дзяржаў. Напрыклад, у папярэднім кірмашы, які адбыўся ў Мінску два гады таму, прынялі ўдзел 312 фірм з васьмі краін СНД і Прыбалтыкі, а таксама з Балгарыі, Германіі, Галандыі, Польшчы. З экспазіцыямі азнаёміліся прадстаўнікі аргкамітэтаў міжнародных кніжных кірмашоў — Варшаўскага, Лейпцыгскага, Маскоўскага, Санкт-Пецярбургскага і Сафійскага.

Чакаецца, што чацвёрты мінскі Міжнародны кніжны кірмаш набудзе яшчэ большы размах. Дарэчы, упершыню заяўкі на ўдзел у ім прымаюцца і ад рэдакцыйных калектываў буйных газет. А пастаяннымі спонсарамі і ініцыятарамі гэтага мерапрыемства сталі прадстаўнікі вытворча-камерцыйнага таварыства "Макбел".

# "Вест" на Захад не праскочыў

**Першую ў гэтым годзе буйную партыю кантрабанды затрымалі брэсцкія пагранічнікі і мытнікі.**

Пры аглядзе грузавой машыны, якая накіроўвалася з Расіі ў Германію і перавозіла шпалерны клей, як было сказана ў дакументах, была выяўлена вялікая партыя цыгарэт "Вест" на агульную суму звыш 3,5 мільярда рублёў. Гэта затрыманне не было адзіным. Праз некалькі дзён у паяздах, што накіроўваюцца на Захад, вартавыя граніцы выявілі і канфіскавалі вялікія партыі кантрабанднага спірту і асятровай ікры.

Дарэчы, калі за 1995 год брэсцкія мытнікі сумесна з пагранічнікамі затрымалі і ператварылі ў даход дзяржавы нелегальных тавараў на суму 30 мільярдаў рублёў, то ў мінулым годзе гэта лічба вырасла амаль у два разы. У бягучым годзе кантрабандны "улоў" абяцае быць не меншым.

**Іван КУКСА.**

Навіны спорту

# Беларускія біятланісты збіраюцца ў Славакію

**Выступіўшы ў Італіі на чарговым Кубку свету, мацнейшыя біятланісты ўзялі тайм-аўт перад сваім сусветным першынствам, якое стартуе ў пачатку лютага ў Славакіі.**

На гэтых галоўных спаборніцтвах гэтага сезона будуць не толькі падведзены асноўныя вынікі кубкавых спаборніцтваў, але і ў значнай меры вызначана расстаноўка сіл страляючых лыжнікаў на будучы алімпійскі год.

З рознымі паказчыкамі падышлі спартсмены да маючага адбыцца чэмпіянату свету. На жаль, некалькі апошніх кубкавых стартаў з-за хваробы прапусціла наша вядучая біятланістка Святлана Парамыгіна. На апошні з іх яна ўсё ж выйшла і закончыла 15-кіламетровую дыстанцыю з чацвёртым вынікам, уступіўшы 15 секунд немцы Ушы Дызль, якая заняла трэцяе месца.

У гонцы на 20 км не пашанцавала Вадзіму Сашурыну. У яго не заладзілася стральба, а таму з-за грузу штрафных мінут ён заняў толькі семае месца.

Кароткатэрміновыя канікулы беларускія біятланісты правядуць на сваёй базе ў Раўбічах пад Мінскам, а затым у баявым саставе адправяцца ў Славакію.

# Эха Атланты

Больш за ўсіх балаў (234) на Алімпіядзе ў Атланце набралі лёгкаатлеты ЗША. Аб гэтым паведаміла Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі, падлічыўшы ачкі ўсіх нацыянальных каманд, якія выступалі на Гульнях-96. За гаспадарамі спаборніцтваў ідуць расіяне — 125 ачкоў. Наступныя месцы займаюць немцы — 109, кенійцы — 82, лёгкаатлеты з Ямайкі — 69... Беларусы — на восьмай пазіцыі — 45, уступаючы італьянцам чатыры ачкі. У першай дзесятцы таксама французы — 42, кубінцы і кітайцы — па 41 ачку.

"Рассакрэцілі" некаторыя цікавыя лічбы і арганізатары летніх Алімпійскіх гульняў. Напрыклад, самую буйную суму яны атрымалі ад продажу білетаў на лёгкаатлетычныя спаборніцтвы — 72,5 мільёна долараў. Другім і трэцім "прызёрамі" па даходах сталі прадстаўнікі абедзвюх гімнастык — спартыўнай і мастацкай — 55,5, а баскетбалісты — 42,5 мільёна долараў.

# ПИРЫ ВАЛТАСАРА

**Николай ФОМЕНКО**

*Не вдаваясь в проблему легитимности результатов референдума 24 ноября 1996 года, зададимся вопросом: а за что, собственно говоря, так упорно боролись сторонники его проведения? Отчего и кому понадобилось расколоть Верховный Совет, отправить в отставку никому ничего плохого не сделавшего премьер-министра Чигиря, потратить безумное количество денег, которые можно было бы выплатить народу в виде надбавок к пенсиям, стипендиям, пособиям по уходу за детьми? За что боролись?! И что получили?!*

## ДЕПУТАТЫ

На первый взгляд, депутатский корпус в полном составе боролся за наведение порядка в стране. Одни считали, что этот порядок может быть обеспечен лишь верховенством закона, другие — оперативностью принятия решений исполнительной властью. Спорили, спешили, переругались. Депутата Пашкевича депутат Карпенко согнал с трибуны, чему тот был несказанно рад и даже гордился этим. **Просто Марий** — Винокурову и Худую парламентарии посылали парламентерами друг к другу. Ночевали в Верховном Совете, собирались в Администрации. Все во имя порядка.

Но была и другая причина. Количество внутрипарламентских постов ограничено. Если уж такой опытный политик, как поднаторевший в партийно-аппаратных интригах Анатолий Малофеев, был вынужден довольствоваться второстепенной ролью заместителя председателя комиссии по экономической реформе, то что уж говорить об амбициях ничего не получивших при разделе портфелей Владимира Егорова, Сергея Костяна, Александра Шпилевского, **сладкой парочки** Кулаковского и Малаховского? Сейчас они получили моральную компенсацию за ощущение собственной неполноценности, которое неминуемо должны были испытывать рядом с Шарецким, Карпенко, Новиковым, Кравченко, Гончаром, Калякиным, Домашем.

Компенсация могла быть и иной. Поговаривают, что межгосударственная телерадиокомпания "Мир", во главе минского филиала которой пребывает Иван Пашкевич, получила обещание доли пакета акций подлежащего реорганизации ПО "Горизонт". Не знаем, правда ли это, но если да, то ради этого стоит терпеть не то что презрение коллег по мандату, а даже побои.

Изменяется состав белорусской делегации в Страсбурге. Вместо бывшего министра иностранных дел Петра Кравченко ее возглавит бывший офицер КГБ Леонид Рачков; во фракциях парламентской ассамблеи Совета Европы не досчитаются белорусских либералов-рыночников. Нет их, что ли, на просторах нашей родины? Наверное, нет. Зато остается в делегации известный юрист и правозащитник Юрий Малумов, хороший эксперт и знаток конституционного строительства в цивилизованных странах. Правда, его слегка понизили в звании, что наверняка благотворно скажется на уровне его загруженности: больше времени останется на международную деятельность. Представляете радость Европы?!

Выяснилось, что целый ряд сфер законодательства просто не имеет в новоиспеченной Палате представителей экспертов с депутатскими мандатами. Ничего, потеря невелика: депутаты ведь должны на кнопки нажимать, а не законопроекты писать. Все правильно: зачем, если следовать этой логике, знать географию, когда извозчики всюду довезут?

Да и потом: кого именно представляет Палата представителей? По Конституции 1994 года, легитимность которой ни у кого не вызывает сомнений, страна была разбита на 260 округов. До референдума из них было занято депутатами 199 округов, да 24 ноября избрали еще троих. Таким образом, старый Верховный Совет реально представлял более 75% населения Республики Беларусь. Сейчас в Палате представителей осталось 110 депутатов, представляющих в реальности менее половины белорусского электората. Причем нельзя говорить о представительстве не только идеологическом (не случайно в новом парламенте нет партийных фракций), но и о представительстве территориальном: столица Беларуси — город-герой Минск, население которого составляет около 15% населения страны, представлена менее чем 3% депутатов. Это и есть борьба за справедливое представление интересов народа?

Предположим, я живу на территории округа, проголосовавшего в 1995 году за кандидата в депутаты Андрея Климова. По моему округу был избран депутат Верховного Совета, но не был избран депутат Минского городского совета. У меня возникли проблемы, которые отказывается рассматривать исполком. К кому мне обращаться, скажите на милость? К товарищу Малофееву? А я за него не голосовал. Он не обязан вмешиваться в несправедливые действия исполнительной власти на территории чужого округа. И в такой ситуации, как я, оказались очень многие белорусские избиратели. Ленин и Чернышевский сказали бы: "Что делать?" А что скажет известный поборник справедливости Александр Лукашенко? Он ведь по должности не имеет права делить народ на своих и чужих. Сошлется на волю народа? Так ведь народ высказал свою волю не только на референдуме, но и на выборах депутатов в тех округах, где выборы состоялись. Как быть?

## СВИТА

Больше всего, разумеется, работала на победу президента "вертикаль" исполнительной власти. Юристы делали обоснования необходимых конституционных реформ, финансисты переводили деньги туда, куда укажут свыше, а оргтделы всех уровней терроризировали избирательные комиссии, депутатский корпус и даже избирателей, дабы обеспечить досрочную явку и тем самым срыв выборов, но победу на референдуме.

Сейчас референдум закончился, можно работать. Вот только кто будет работать? История с нехваткой продовольствия и сделанные из нее оргвыводы позволяют судить, кто именно у нас теперь будет отвечать по счетам президента: та самая "вертикаль".

Первые победные рескрипты президента — об отставках и назначениях. Помнится, видный юрист, председатель Верховного суда Владимир Каравай агитировал с телеэкрана за президента. И где теперь тот Каравай? На пенсии, в сенате. Так в сенат и коня вводили, бывало. Правда, вместо него назначен не менее видный и заслуженный в предреферендумных баталиях юрист Валентин Сукало.

Помнится, глава Администрации Михаил Мясникович ратовал за расширение полномочий правительства. И что? Ему, что ли, доверили возглавлять правительство? И пусть не говорит, что он этого не хотел: плох солдат, который не хочет стать генералом! Правда, его оставили на прежней работе. Но стоило ли из-за этого так стараться? Где Павел Дик, боевой финансист? В отставке, говорят, чуть не под арестом. А Тамара Винникова? Вопрос, как говорится, риторический.

Помнится, заместитель председателя Верховного Совета Юрий Малумов говорил о необходимости реформирования высшего законодательного органа. Ну, есть новый орган. И что с того самому господину Малумову? На что он лично рассчитывал? И на что рассчитывали его коллеги Котляров, Худая, Сакович, Карпиевич? На благодарность потомков? Профессора Котлярова даже в члены-корреспонденты Национальной академии наук не избрали, о чем "Народная воля" уже писала. Вероятно, посчитали недостаточно заслуженным деятелем науки.

"Ах, — скажут мне, — Николай Дмитриевич, что вы! Они ведь все — бескорыстнейшие люди!" А я отвечу на это: "Как приятно иметь дело с бескорыстными людьми! Родина их не забудет!"

## ПРЕЗИДЕНТ

Александр Григорьевич полтора года из неполных двух с половиной лет своего правления всем говорил о том, что Конституция дает ему царские полномочия. Не буду утверждать, что президент врал. Он у нас, как известно, человек искренний. Полгода он твердил, что лучшего депутатского корпуса, нежели депутаты Верховного Совета 13-го созыва, ему не найти. И они охотно исполняли все его просьбы. Кадры утверждали чуть ли не единогласно. Бюджет приняли быстро, причем такой, о каком просила исполнительная власть. Ратифицировали договор о создании Сообщества Суверенных Республик, осудили договор о создании Содружества Независимых Государств. Каких законопроектов от него дождались, такие и приняли. И его, отца родного, берегли: друг с другом спорили до хрипоты, лишь бы не допустить кого-нибудь иного к власти. Так зачем же понадобилась новая редакция Конституции?

Президент говорит: "Ради того, чтобы расширить права и свободы граждан!" Но депутат Анатолий Лебедько предлагал принять весь социальный блок президентского варианта Конституции единогласно и без обсуждения. Президент на это не пошел.

Правительство говорит: "Нам нужно расширить наши полномочия: в частности, дать право законодательной инициативы". Но ведь за это выступали все, включая коммунистов и аграриев, для которых принципиально важным был именно такой аспект Конституции. Они бы и за это проголосовали. И тоже единогласно! Но президент опять-таки на это не пошел. Почему?

Потому что его куда больше интересовали другие статьи Конституции — те, в которых регламентировалась процедура импичмента. Он всем своим нутром почуял, что отвечать за развал в экономике придется — и очень скоро. А в оставшиеся три года перекладывать свою ответственность на Богданкевича, Министерство торговли и директора Комаровского рынка все время не будешь. Лучший способ уйти от ответственности — изменить закон (в нашем случае — Основной Закон), а заодно урвать себе еще два года полномочий — так, на всякий случай. Ради этого не то что председателя Центризбиркома Виктора Гончара из занимаемого им по закону кабинета силой выдворишь, а и на куда более весомые в глазах Уголовного кодекса шаги пойдешь.

И после этого все равно не вздохнешь с облегчением. Потому что и сам, и все твое окружение хорошо знают цену такой победе. Можно пировать, отмечать, заново проходить процедуру инаугурации. А голову будет пронзать воспоминание о библейском царе Валтасаре: он, говорят, тоже праздновал победу на очередном референдуме, когда невидимая рука начертала на стене предсказание, сбывшееся в ту же ночь.

Кстати, библейского Валтасара зарезали слуги.

## НАРОД

Народ получил ту власть, которую он выбрал в 1994 году. В редакции, усовершенствованной и дополненной. Будем надеяться, что он это поймет и оценит.

# Спартыўная сесія студэнтаў

**У Карэю на сусветную універсіяду адправілася зборная каманда нашай рэспублікі. Беларускія студэнты выступяць у лыжных гонках, дваябор'і, скачках з трампліна, канькабежным спорце і фігурным катанні на коньках.**

У складзе дэлегацыі — два чэмпіёны мінулай універсіяды Сяргей Захаранка і Аляксей Трагубаў. На жаль, на гэты раз у камандзе няма нашых біятланістаў. Тлумачыцца гэта проста — ніхто з маладых страляючых лыжнікаў зборнай не вучыцца на стацыянары.

**Вячаслаў ДУТАЎ.**

# О ставках подоходного налога

Разъяснение Главной государственной налоговой инспекции при Кабинете министров Республики Беларусь N 03/139 от 24.12.96.

Постановлением правительства Республики Беларусь от 02.12.96 N 772 "О повышении размера минимальной заработной платы и увеличении оплаты труда работников бюджетной сферы" с 1 января 1997 года установлена минимальная заработная плата в размере 130 000 рублей в месяц. В связи с этим Главная государственная налоговая инспекция доводит до сведения населения шкалы ставок подоходного налога в цифровом изложении.

1. С доходов, указанных в статьях 7 и 9 Закона Республики Беларусь "О подоходном налоге с граждан", подоходный налог взимается в следующих размерах:

| Размер облагаемого месячного дохода | Сумма налога |
|---|---|
| 1. До 1300000 рублей | 9% ссуммы дохода |
| 2. От 1300001 до 1950000 | 117000 руб.+12% с суммы, превышающей 1300000 рублей |
| 3. От 1950001 до 2600000 рублей | 195000 руб.+15% с суммы, превышающей 1950000 рублей |
| 4. От 2600001 до 3900000 рублей | 292500 руб.+20% с суммы, превышающей 2600000 рублей |
| 5. От 3900001 до 7800000 рублей | 552500 руб.+25% с суммы, превышающей 3900000 рублей |
| 6. От 7800001 до 9100000 рублей | 1527500 руб.+30% с суммы, превышающей 7800000 рублей |
| 7. От 9100000 рублей и выше | 1917500 руб.+50% с суммы, превышающей 9100000 рублей |

2. С доходов, указанных в статьях 10, 11, 13 закона, подоходный налог взимается в следующих размерах:

| Размер годового облагаемого дохода | Сумма налога |
|---|---|
| 1. До 15600000 руб. | 9% с суммы дохода |
| 2. От 15600001 руб. до 23400000 руб. | 1404000 руб.+12% с суммы, превышающей 15600000 рублей |
| 3. От 23400001 руб. до 31200000 руб. | 2340000 руб.+15% с суммы, превышающей 23400000 рублей |
| 4. От 31200001 руб. до 46800000 руб. | 3510000 руб.+20% с суммы, превышающей 31200000 рублей |
| 5. От 46800001 руб. до 93600000 руб. | 6630000 руб.+25% с суммы, превышающей 46800000 рублей |
| 6. От 93600001 руб. до 109200000 руб. | 18330000 руб.+30% с суммы, превышающей 93600000 рублей |
| 7. От 109200000 руб. и выше | 23010000 руб.+50% с суммы, превышающей 109200000 рублей |

Обращаем внимание на то, что ставки применяются:

к заработной плате и другим выплатам, связанным с исполнением трудовых обязанностей (в том числе за работу по совместительству) за работы, выполненные с 1 января 1997 года;

к доходам за выполнение разовых работ и других работ, осуществляемых на основе договоров гражданско-правового характера, действующих на момент начисления дохода;

к доходам от предпринимательской деятельности и другим доходам, полученным после 1 января 1997 года.

**А.ДОРОШЕНКО,**
**заместитель председателя Главной государственной налоговой инспекции при Кабинете министров Республики Беларусь.**

# Чарговая спроба ўдасканаліць закон аб друку

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выступіў з чарговай ініцыятывай, якая датычыць унясення змяненняў і дапаўненняў ў Закон "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Гэты дакумент не раз ужо станавіўся прадметам абмеркавання шырокай грамадскасці.

Вясной мінулага года па ініцыятыве камітэта адбыўся "круглы стол" з удзелам галоўных рэдактараў перыядычных выданняў, прадстаўнікоў выканаўчай і заканадаўчай улад. Выпрацаваныя прапановы па ўдасканаленню дзеючага заканадаўства па друку з улікам заўваг экспертаў Савета Еўропы былі ўнесены ў адпаведную парламенцкую камісію, аднак ранейшы Вярхоўны Савет так і не прыняў папраўкі да закону.

Свае прапановы па ўнясенню змяненняў і дапаўненняў у заканадаўства па друку рэдакцыі перыядычных выданняў могуць даслаць у Дзяржаўны камітэт па друку па адрасу: Мінск, праспект Машэрава, 11.

# Асаблівасці палявання на Гомельшчыне

Дзіка, які жыў ва ўрочышчах Кармянскага раёна, можна заносіць у Кнігу рэкордаў Гінэса. Калі паляўнічыя дадумаліся праверыць мяса падстрэленай жывёліны на наяўнасць радыенуклідаў, то высветлілася, што іх у сто разоў больш, чым прадугледжана нормамі.

Егеры і паляўніцтвазнаўцы лічаць, што на Гомельшчыне паляванне набыло ў асноўным толькі спартыўны інтарэс, бо той, хто адважыцца спажываць мяса дзікіх жывёлін у ежу, падвяргае сябе сур'ёзнай рызыцы. Нават у Калінкавіцкім і Петрыкаўскім раёнах, якія лічацца больш-менш экалагічна небяспечнымі, амаль усе падстрэленыя ў мінулым годзе зайцы ўтрымлівалі радыяцыйную "начынку".

**Віктар КОТАЎ.**

# Усе мы родам з песень Высоцкага

Памяці Уладзіміра Высоцкага будзе прысвечаны вечар, які адбудзецца 26 студзеня ў сталічным кінатэатры "Змена". Напярэдадні паклоннікі творчасці Уладзіміра Сямёнавіча адзначаць чарговую гадавіну з дня яго нараджэння.

Аб жыццёвым шляху непаўторнага акцёра, паэта і выканаўцы, які мог, як ніхто іншы, "запаліць" людскія сэрцы, раскажуць вядомыя літаратары і мастацтвазнаўцы. Сваімі ўспамінамі падзеліцца беларускі бард Уладзімір Цанунін, які добра ведаў Уладзіміра Высоцкага. Не абыдзецца, вядома, і без песень — яны прагучаць не толькі ў магнітафонным запісе, але і ў кінафільме Віктара Турава "Я родам з дзяцінства", які будзе паказаны ў гэты вечар.

**Аксана ПІВАВАР.**

# В Беларуси секса нет!

**Единственный в Беларуси эротический театр "Steel Orgazm" временно прекратил свои выступления в нашей стране.**

Сейчас, по словам руководителя театра Алеся Эротича, весь творческий состав "Steel Orgazm" сориентирован на плодотворную работу за рубежом, где им пока предлагают весьма неплохие гонорары за довольно-таки раскрепощенные выступления. Вообще, Алесь Эротич, как истинный ценитель и любитель секса, в принципе, может работать и без денег. Лишь бы отдача была. А вот юные девочки-актрисы — нет. "Но и их, согласитесь, — говорит он,— понять можно. Жить ведь на что-то нужно.

А вообще, наш театр будет существовать. Невзирая ни на какие запреты и условия. И то, что наши выступления пользуются определенным успехом среди публики, предпочитающей ночной образ жизни дневному, тому доказательство. Надеюсь, что теперешние небольшие денежные проблемы всего лишь вопрос времени."

Что касается нашумевшего проекта по созданию женского специализированного клуба закрытого типа, то он, по предварительным расчетам, увидит свет не раньше будущего года. Да и то подпольно. Проблемы с финансированием. Посему, как ни печально, но белорусским эротоманкам придется еще немного потерпеть.

В свободное от работы время Алесь Эротич пишет эротические рассказы и строит теоретические концепции по поводу изменения ментальности белорусской нации. Кстати, своему убеждению в том, что секса в республике нет, Алесь не изменил.

**Марина КОКТЫШ.**

Пазіцыя простага чалавека

# На чужы каравай рот не разявай

**Мне горка, балюча ад таго, што адбываецца на Беларусі, і я хачу выказаць набалелае.**

Як раней, так і сёння ўсе афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі нашай краіны знаходзяцца пад кантролем Расіі. Абалваньванне людзей праводзіцца на карысць краіны-суседкі. Народу прапануюцца розныя пачварныя міфы. Некаторыя з іх я хачу абмеркаваць.

Людзям празамбіравалі ідэю, што Расія — нейкі "донар", "кармушка" для Беларусі, што "інтэграцыя" з Расіяй — панацэя пры вырашэнні ўсіх нашых праблем. Гэты страшны міф вядзе да трагічных вынікаў. У мінулым расійска-беларускія адносіны складваліся з "пазіцыі сілы". Беларусь была для Расіі разменнай манетай. Бальшавіцкія кіраўнікі "рэзалі Беларусь па жывому". Смаленск і Бранск прыхапілі для Расіі, Віленскі край перадалі Літве, Беласточчыну — палякам. Я не стаўлю пытання штосьці вярнуць. Проста гэтыя факты разбураюць міф аб "дружбе і братэрстве" і праўдзіва характарызуюць расійска-беларускія адносіны.

Мінулае немагчыма перапісаць. Што было, таго ўжо не вернеш. З мінулым нельга змагацца. Але памылкі мінулага неабходна выпраўляць. Зазіраючы ў будучыню, трэба наладзіць добрасуседскія, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з Расіяй, адкідваючы каланіяльныя ланцугі, якія нам хочуць навязаць.

Беларусь — не марыянетка для Расіі, а раўнапраўны партнёр! А вось гэта залежыць ад кіраўнікоў Крамля. Падзеі апошніх двух гадоў паказалі, што "інтэграцыя", "збліжэнне" з Расіяй вядуць нас у галечу. Хіба ж панізіліся цэны пасля разбурэння ўсходняй мяжы Беларусі? 2 красавіка мінулага года Расія і Беларусь утварылі новы ССР. Хіба ж павысіўся наш дабрабыт за дзевяць месяцаў у гэтай Супольнасці? Нават пры ўсім жаданні (якога, дарэчы, няма) расіяне не здольныя нам дапамагчы. На ГРТ, канале "Россия" часта паказваюць расійскія праблемы: па некалькі месяцаў не выплачваецца зарплата, часта бастуюць шахцёры, канфлікт у Чэчні і г.д. "Велика Россия, а жрать нечего!" Таму і не просяцца ў Расію ні ўзбекі, ні таджыкі. Былы інтэгратар Н.Назарбаеў нядаўна ў Алма-Аце ўрачыста адзначыў пятыя ўгодкі незалежнасці Казахстана. Народ гэтай краіны ўшанаваў пакутнікаў падзей 1986 года ў Алма-Аце.

У красавіку Б.Ельцын запрасіў многія краіны свету далучыцца да Супольнасці: Украіну, краіны Прыбалтыкі, краіны Сярэдняй Азіі, Балгарыю і іншыя. Аднак чамусьці, акрамя Лукашэнкі, ніхто не запісаўся ў новы ССР. Дык няўжо кіраўнікі гэтых краін такія, прабачце, дурныя, што адмовіліся "заінтэграравацца" у склад Расіі? Калі Расія — "кармушка", дык чаму ж тады іншыя краіны не імкнуцца да яе?

Давайце ўспомнім гістарычны факт: калісьці Фінляндыя і Польшча ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі. Адваяваўшы сваю самастойнасць, народы гэтых краін пачалі жыць значна лепш, чым народы Расіі. Дай Бог і нам калі-небудзь жыць так, як сёння жывуць фіны і палякі. Амаль два гады (1994—1996) мужна змагаліся чачэнцы з "дэмакратычнай"? Расіяй за сваё законнае права жыць не "под юрисдикцией России", а "под юрисдикцией Аллаха".

На маю думку, дабрабыт залежыць не ад палітычных саюзаў, а ад эфектыўнасці эканомікі. Патрэбны рэформы, замежныя інвестыцыі, якіх Расія не можа нам даць. Калі праблемы Беларусі будуць вырашацца ў Маскве, дык яны будуць вырашаны на карысць Расіі, а народы Беларусі панясуць страты. Вось чаму нам неабходна палітычная самастойнасць. Нават абмежаваная, урэзаная незалежнасць Беларусі і сёння прыносіць краіне свае дывідэнды. Нашы хлопцы атрымалі права не ваяваць за расійскія інтарэсы. Беларускія маці не атрымлівалі "пахаронкі" на сваіх сыноў ні з Чэчні, ні з Таджыкістана. Гэта маскоўска-крамлёўскія кіраўнікі загналі нашых хлопцаў у свой час на вайну ў Афганістан.

Каб мяне правільна зразумелі, я паўтараю яшчэ раз: "Я за раўнапраўныя і ўзаемнавыгадныя адносіны Беларусі з Расіяй, акрамя палітычных і ваенных саюзаў".

Я думаю, што ўсім суайчыннікам незалежна ад нацыянальнасці неабходна падтрымліваць інтарэсы Беларусі. Беларусь — наш агульны родны дом, наша агульная скарбонка. Абрабаванне нашай краіны прывядзе да абрабавання кожнага грамадзяніна незалежна ад нацыянальнасці. Будзем сумленна супрацоўнічаць з Расіяй, адкінуўшы каланіяльныя ланцугі. І не толькі з Расіяй, а і з тымі краінамі свету, з якімі супрацоўнічаць для нас выгадна.

Неабходна адмовіцца ад шкодных ілюзій. Вобразна кажучы, ад расійскага пірага нам нічога не "абломіцца". Неабходна выпякаць свой. А на чужы каравай, як кажуць, рот не разявай.

**Аркадзь ГАЛАЙ,**
**рабочы.**

г.Мінск.

Нельзя молчать

# За что надо мной столько издевались?

Добрый день, уважаемая редакция!

До того случая, когда меня схватили работники милиции, я не задумывался над вопросом: в какой стране мы живем?!

11 ноября 1996 года я купил в ГУМе электробритву и около 13 часов дня шел по проспекту Скорины. Вдруг увидел, что по тротуару сзади меня движется большая группа людей. Внезапно, при подходе к площади Независимости, появилось оцепление ОМОНа. Я перешел на противоположную сторону проспекта, к почтамту, чтобы купить конверт. Участники митинга также перешли на эту сторону. Проход к самому почтамту перекрыл ОМОН, и я попробовал пробраться к почтамту со стороны улицы Свердлова. Там тоже стоял ОМОН. Я объяснил, что мне надо на почтамт, но меня стали отталкивать, рвать на мне кожаную куртку, так как два омоновца схватили меня за руки. Какими законами руководствовались — они не сказали, а только: "Проход запрещен".

Когда омоновцы начали издеваться надо мной, я не выдержал и сказал: "Что вы делаете, фашисты?" Тогда один из офицеров ОМОНа (как я узнал позже, его фамилия — Знак) приказал: "Взять его!" Меня затолкнули в фургон машины МН 0403 и отвезли в Московский РОВД. По дороге меня оскорбляли, представиться отказались. Дежурные по РОВД майор Николайченко и лейтенант со знаком "Отличник милиции" тоже не представились. Один из них схватил дубинку, а другой начал обыскивать меня. У меня забрали сумку, где лежали личные вещи, сняли ремень, шнурки от ботинок, куртку и закрыли в камере без освещения с маленьким круглым окошком.

Приблизительно через три часа свет включили. На мои просьбы позвонить моей матери дежурные по РОВД не реагировали. После неоднократных просьб меня вывели в туалет. Потом мне было предложено подписать протокол, где было написано, что я выражался нецензурно в адрес президента и работников милиции. Штраф я платить отказался, протокол не подписал. Тогда в 20.00 меня вывели в дежурную часть. Вернули вещи, деньги, свидетельство и удостоверение инвалида II группы. На мой вопрос: "Почему вы меня здесь держите?" лейтенант пригрозил мне дубинкой и запер в другой камере. В 21.00 он меня выпустил, но приехала бригада "скорой помощи".

Без моего согласия врач "скорой помощи", три санитара и дежурные по РОВД оформили сопроводительные документы в психиатрическую больницу, так как свидетельство инвалида II группы выдано психоневрологической комиссией. По пути в больницу санитары всячески унижали меня. Один из них сказал: "Был бы человек, а диагноз всегда найдется". В сопроводительных документах и в истории болезни написали: "Олигофрения", хотя у меня II группа по эпилепсии.

Только врач из приемного покоя согласилась позвонить моей матери, сообщить ей, что произошло. Утром 18 ноября мать позвонила доктору 7-го отделения, куда меня доставили, и потом приехал отец и забрал меня.

За что надо мной столько издевались? Почему меня заставили отсидеть сначала в камере, потом в 7-м отделении, хотя я никаких хулиганских действий не совершал? Может, не надо было говорить "фашисты", но я не выдержал. Что это за власть у нас такая, которая творит полный беспредел?

**С уважением,**
**Олег ЛЕВКОВИЧ,**
**27 лет, инвалид II группы,**
**г.Минск.**

**P.S.** *По поводу задержания меня вызывали в прокуратуру Ленинского района к старшему следователю Плотницкому. Он зафиксировал, что я хулиганских действий не предпринимал и предложил обратиться в прокуратуру Московского района, поставив вопрос о защите чести и достоинства. Прошу вас опубликовать мое письмо. Дело не в том, что меня задержали. На моем месте в этот момент мог оказаться любой другой человек. Речь идет о том, в какой, действительно, стране мы живем?*

